# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп

№ 1. Вільня, Нядзеля, 28-га верасьня 1924 г. Год I.


## Наша Праўда.



Слова „Праўда“ ў беларускай мове мае падвойнае значэньне: апрача *праўдзівасьці*, яно абазначае такжа *справядлівасьць*.

Доўгія вякі беларускі працоўны сялянскі люд у адносінах да сябе ня бачыў Праўды-Справядлівасьці. Заўсёды ўціска
ны, нясучы на сваіх плячох ярмо прыгону-паншчыны, ня лічаны за людзей, а адно за скаціну рабочую, наш сялянскі люд сваім найсьвятлейшым ідэалам пачаў лічыць тое, чаго ў жыцьці сваім ня бачыў: іменна гэную *Праўду*.

Да гэтага ідэалу імкнуліся нашыя сялянскія масы, з аружжам у руках паўстаючы проці сваіх крыўдзіцеляў. Яго абвяшчалі і народныя правадыры, клічучы народ да аружнае барацьбы з чужацкаю ўладаю.

Калі за нашу Праўду Бог нас стаў<br>карацi<br>Дый у прадвечнага суду вялеў прападацi,<br>То мы прападзем марна, а Праўды<br>ня кінем,<br>Хутчэй Неба і шчасьце, як Праўду<br>абмінем!

Так пісаў вякікі сын нашага народу, Костусь Каліноўскі, „Дыктатар Літвы“ ў часе паўстаньня 1863 году проці маскоўскага панаваньня. Так пісаў напярэдадні свайго павешаньня чалавек, які за Праўду-Справядлівасьць для нашых працоўных масаў аддаў сваё жыцьцё.

За гэтую самую Праўду будзем змагацца і мы.

Многа маны і крыўдаў ёсьць цяпер на нашай Зямлі. Маной і баламуцтвам багатыя клясы, сільныя сваей культурай і арганізацыяй, пануюць над працоўнымі масамі, над работнікамі і сялянамі. А тыя, праз цямноту і неарганізованасьць сваю ня бачучы дарогі да вызваленьня, моўчкі, як і сто гадоў назад, цягнуць свой цяжкі крыж.

Дык вось, прад намі стаяць дзьве дарогі; праз культурную працу, праз навуку *пазнаць Праўду-Ісьціну*, праз арганізацыю нашых магутных, хоць яшчэ прыспаных, сіл *дабіцца Праўды-Справядлівасьці*.

Калі наша газэта хоць у невялікай меры паможа нашаму сялянству ў заваяваньні Праўды ў абодвух яе значэньнях, — мы сваю задачу будзем лічыць споўненай.

Але мала *пісаць* аб Праўдзе: трэба, каб тое, што давацімець нашая газэта на сваіх страніцах, *даходзіла* да тых, дзеля каго яно пішацца. І тут ужо пачынаецца *задача нашага сьвядомага грамадзянства*: дапамагаць нам у шырэньні газэты, падтрымліваць сваю газэту матэрыяльна, паведамляць яе аб усім чыста, што дзеецца ў беларускай вёсцы, аб дазнаваных крыўдах і зьдзеках, аб таптаньні і гвалтаваньні нашае Праўды „сільнымі гэтага сьвету“.

Пішэце ў газэту ўсе, пішэце аб вашых недаўменьнях, пытайцеся тлумачэньня таго, што для вас непанятна. У жывым абмене думкамі між Рэдакцыяй газэты і чытачамі яе будзе шмат што высьвятляцца, дый мы і вы лягчэй здолеем выкрываць *нашую супольную Праўду*!



## Да эканамічнае работы!

Беларускае сялянства—гэта зусім абасоблены слой насяленьня нашага краю, слой, які аддзяляе ад пануючага ў нас польскага панства, як нашая нацыянальнасьць, так і нашыя сацыяльныя патрэбы і інтарэсы.

Нацыянальнасьць бароніць нас ад польскіх „вярхоў“, бо зьяўляецца тэй зброяй, ад якое, бы гарох ад сьцяны, адбіваюцца панскія ўплывы, што йдуць да нас у першы чарод ад „польскіх“ ксяндзоў, ад польскае школы, польскіх вучыцялёў ды ўсяе польскае адміністрацыі.

З другога боку, як ні мала наш народ сьвядомы сацыяльна, адно ён добра разумее: што яго інтэрас вымагае падзелу панскае зямлі паміж тутэйшым працоўным сялянствам, а карысьць паноў—захаваньня дворных абшараў у руках цяперашніх іх уласьнікаў,—ня кажучы ўжо аб іншым.

Праз гэтую падвойную зброю да душ беларускіх ня могуць прабіцца ласьлівыя панскія словы аб **„еднасьці“ і „брацтве“ пана з мужыком.** Дык вось, хітрэйшыя і мудрэйшыя з іх распачалі такую работу.

Адчыняюць недзе ў вёсцы „kółko rolnicze“ (сельскагаспадарскі гурток). Мэтай яго стаўляюць дапамогу хлебаробу ў гаспадарцы. І запраўды: ў адным месцы такі гурток, кіраваны абшарнікамі і ксяндзамі, выпісаў перад касьбой партыю добрых кос і танна распрадаў сялянам, у другім—насеннага збожжа, у трэцім—парашкоў дзеля гнаеньня поля і г. д. Усё гэта—рэчы бязспрэчна карысныя, а сваіх, беларускіх, арганізацыяў такога роду няма. Дык да гэтакай работы як не прылажыць руку? І вось, нашыя вясковыя сялянскія інтэлігенты, дзеля карысьці для вёскі, пачынаюць зьліжацца з дзеячамі гурткоў—абшарнікамі. Ад іх чуюць, што, каб не „агітацыя розных бунтаўнікоў“, дык сужыцьце паноў з сялянамі было-бы ідэальнае: пан, бы бацька родны, клапоціцца аб „сваіх“ мужычкох і ня толькі не стаіць на дарозе да іх шчасьця, а адзін толькі і можа, і хоча даць нам гэнае шчасьце!

Так нам **гавораць**. А як толькі сяляне пачынаюць паддавацца на гэткія салодкія гутаркі, ім зара тыц пад нос нейкія „пэтыцыі“ ці „рэзалюцыі“ да ўлады, што народ наш у Польшчы ўсім чым давольны, давольны і польскай школай, і асаднікамі, і „ідэальнай“ адміністрацыяй, — ды што Богу дзякуе за „wcielenie“ да Польскае дзяржавы...

Усё-ж трэба сказаць, што гэтай дарогай паны дагэтуль мала чаго дасягаюць. І вось яны ўжо даўно распачалі работу, якая паставіла сабе мэтай захапіць у польскія панскія рукі адзіную, на жаль, чыста народную беларускую эканамічную арганізацыю: нашыя каапэратывы.

У Заходняй Беларусі ўжо некалькі гадоў назад распачаўся даволі сільны каапэратыўны рух. Стварылася больш за сотню сялянскіх каапэратываў, якія, зусім натуральна, мелі бадай выключна беларускі нацыянальны характар з увагі на склад сяброў. Каапэратывы стварылі свой моцны супольны цэнтр—Саюз Каапэратываў з месцам быцьця ў Вільні, як сталіцы Краю. І на кіраўніцтве Саюзу адбіўся нацыянальны склад вясковых каапэратываў: яно апынулася ў беларускіх руках, хаця ў ім і было дадзена месца прадстаўніком польскае і жыдоўскае меншасьці ў Краю

Вось-жа проці гэтага Саюзу, як **беларускага**, была распачата пляновая барацьба. І барацьбу гэную павялі ня самыя польскія паны, а прадстаўнікі тэй польскай „дэмакратычнай“ інтэлігенцыі, якой пад дэмакратычнай ахварбоўкай шмат лягчэй дайсьці да нашага народу, чым абшарнікам. Гэтыя „дэмакраты“ (чуць-што не „сацыялісты“, або нават „былыя“ сацыялісты!) і зрабілі сваю нягодную работу: увесь час пратэстуючы проці „беларускага нацыяналізму“ ў каапэрацыі, дэклямуючы аб патрэбе вызваленьня яе ад... беларускіх нацыянальных уплываў, яны ўсялякай крутнёй патрапілі захапіць кіраўніцтва Саюзам у свае рукі і зусім выкінуць стуль беларусаў! Выкінулі нават і тых наіўных беларускіх каапэратараў, якія паверылі ў тое, быццам каапэрацыя ў беларусаў не павінна быць нацыянальна-беларускай, ды самі дапамаглі зрабіць яе нацыянальна-польскай!

Але перамога палякоў на апошнім агульным зьезьдзе аб'яднаных у Саюзе каапэратываў—гэта йшчэ не апошні мамэнт барацьбы, якая тутака йдзе паміж беларускім сялянствам і польскімі „апякунамі“ яго. У гэту восень мае адбыцца новы зьезд, вызначаны па жаданьню беларусаў. Вось-жа, няхай нашы беларускія каапэратывы крэпка пастаяць за сябе. Няхай перад зьездам паразумеюцца паміж сабой, няхай дапільнуюць, каб зьезд быў склікаць чым хутчэй, і няхай не дадуць камандаваць над сабой тым „ваўкам у авечай скуры“, якія так лоўка ўмеюць працаваць дзеля перамогі польскае нацыянальнае ідэі над ідэяй самастойнасьці — хаця-бы толькі эканамічнай—беларускага народу.

**Эканамічная работа**—гэта нашае **найважнейшае нацыянальнае заданьне** на сучасны мамэнт—побач з справай адбудовы і разьвіцьця зьнішчанае беларускае школьнае сеці ў Заходняй Беларусі і заваяваньня самаўрадаў. І гэту работу трэба стаўляць на выразным **беларускім** грунце, на грунце **клясава-сялянскім.**

**К. Фалькевіч.**

## Прэзыдэнт Аўстрыі аб Польшчы.

„Kattowitzer Ztg.“ надрукавала гутарку свайго карэспандэнта з прэзыдэнтам Аўстрыі аб палажэньні „меншасьцяў“ у Польшчы.

На пагляд прэзыдэнта, у Польшчы пануе нацыянальны уціск і запярэчаньне волі і згоды народаў.

Пасьля заяваў Пэнлевэ і Эрыо — гэта новы балючы ўрад сучаснай польскай палітыцы!

## Міравыя праекты Лігі Народаў.

Даўно ўжо ўсім добра ведама, што Ліга Народаў—гэта саюз зусім **не народаў, а дзяржаваў**, да таго толькі тых дзяржаваў, якія Лігай будуць афіцыяльна прызнаны.

Ведама такжа і тое, што ў склад Лігі **не ўваходзяць** такія вялікія дзяржавы, як СССР, Нямеччына і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты.

Ужо гэтых двух фактаў даволі, каб праца сучаснай сэсіі Лігі Народаў над устанаўленьне моцных падставаў трывалага міру аказалася сама пазбаўленай рэальных падставаў! І, прыгледзіўшыся да праекту міравое ўмовы, выпрацаванага Лігай дзеля разгляду паадзінокімі дзяржавамі і ўнясеньня на парадак дня чарговае сэсіі Лігі — цераз год, лёгка знайсьці тыя яго хібы, якія вынікаюць з самага характару саюзу дзяржаў.

Праект міравое ўмовы стаіць на тым пункце гледжаньня, што **сучасныя граніцы дзяржаў — гэта нешта сталае, нязьменнае.** У праекце, да прыкладу, гаворыцца, што пастановы, раз ужо аднагалосна прынятыя Радай Лігі, ня могуць быць разглядаваны нанова. Значыць, як з трыумфам адзначае польская прэса, ня могуць разглядацца нанова — нават і пасьля ўваходу ў Лігу Нямеччыны і СССР—такія аднагалосныя пастановы Рады Лігі, як аб Горным Сьлёнску, аб польска-літоўскай граніцы, аб недапушчэньні арбітражу ў справе рэвізіі трактатаў. А вось іменна адных толькі гэтых трох спраў зусім хватае, каб нанова распаліць эўрапэйскую вайну!

Другое, што разьбівае ўсе мяркаваньні Лігі Народаў, гэта ўжо нават ня справа адносінаў паміж дзяржавамі, а **паміж народамі**, ці, справядлівей, **між народамі і дзяржавамі.**

Якія-б ні былі ўмовы між дзяржавамі аб непавялічэньні збраеньняў, аб карах для дзяржаў, ухіліўшыхся ад арбітражу,—яны мала памогуць, пакуль Ліга будзе мець дзела **не з народамі** (хаця гэта напісана ў самым назове яе!), **а з дзяржавамі.** Калі ў тэй ці іншай дзяржаве выбухне паўстаньне прыгнечанага народу, Лізе да гэтага ніякага дзела няма. Але якраз ад гэтае барацьбы нявольных народаў з іх „валадарамі“ найчасьцей і выбухаюць войны—і гэткія заядлыя, што ніякі англійскі флёт **ня** здолее іх супыніць!

Ліга вельмі мудра абмяркавала, як у прыпадку **спрэчкі між дзяржавамі** трэба яе лагодзіць арбітражам, якую дзяржаву трэба лічыць вінаватай, якія санкцыі (кары) маюць быць вызначаны нападаючай старане. Але яна зусім не падыйшла да **праблемы народаў.**

І вось тут — „ахілесава пята“ Лігі Народаў і яе праекту забясьпечаньня міру.

Ліга маніцца ў сярэдзіне будучага году склікаць сусьветны кангрэс дзеля разаружэньня, адкладаючы на пасьля яго правядзеньне ў жыцьцё сваіх міравых праектаў.

Вось, усё гэта будзе залежаць насамперш ад таго, ці запраўды **ўсе дзяржавы** будуць на гэтым кангрэсе (Нямеччына, ССРР, Амэрыка?). Але, паўтараем, і гэта йшчэ ня ўсё: бо **праблема народаў** нават і не закранута Лігай!

**Г Кандратовіч.**

## Неураджай.

Віленскае „Słowo“ піша:

З усіх ваколіц **Віленшчыны** даходзяць да нас весткі аб **неўраджаю.**

Гэты неўраджай пачынае прыймаць разьмеры **катастрофы** Жыта, пшаніца, аўсы, бульба — ўсё сёлета ашукала хлебароба!

## Аб чым пішуць.

### Спрэчкі аб Віленшчыну.

„Gaz. Warsz.“ з абурэньнем прыводзе адрывак аб Віленшчыне з англійскага статыстычнага гадавіка на 1924 год „The Statesman Yearbook“, у якім сказана, што сталіцай Літвы зьяўляецца Вільня, а паміж вялікшымі местамі пералічаны... Горадня і Сувалкі. Вось гэты адрывак:

> Паўдзённая граніца Літвы з Польшчай яшчэ не ўстноўлена. Літва і Польшча хочуць Вільні, але, хаця Ліга Народаў жадала разьвязаць гэтую праблему, дагэтуль (сакавік 1923 г.) да згоды не дайшлі.

Гэтак віленскае пытаньне прадстаўляецца англічанам. Але-ж бяда ў тым, што на Вільню пасягаюць ня толькі літвіны, але і— трэцяя старана!

Гэтая трэцяя старана—Радавая Беларусь, якая патрабуе праз Вільню зьвязацца з Захадам і праз яе-ж дайсьці да Балтыцкага мора. А з прычыны таго, што Радавая Беларусь уваходзіць у склад Расеі (або, панова-му, у склад ССРР), дык усходнія беларусы пруцца да Вільні разам з Расеяй. Вось чаму і расейцы пачынаюць пасягаць на гэтую старую сталіцу Беларуска - Літоўскага гаспадарства.

Тая-ж „Gaz. Warsz.“ падаець з парыжскае расейскае газэты „Послѣднія Новости“ адрывак артыкулу п. Неманова, які за апошнія гады разы два прыяжджаў у Вільню і добра пазнаў тутэйшыя адносіны і настроі. Вось, што піша п. Неманов:

> Віленскае пытаньне—гэта пытаньне паважнае, вострае і небясьпечнае. Яно пагражае ў будучыні вялікімі камплікацыямі, але гэтае пытаньне датыкае выключна Польшчу і Расею, ды ніколі ня Літву. Расейска-польскія адносіны ня стануцца нармальнымі, пакуль віленскае пытаньне ня будзе разьвязана па мысьлі Расеі; бо культурна і этнаграфічна (праз Беларусь!—*Рэд.*), асабліва-ж эканамічна, Расея крэпка зьвязана з Вільняй і Віленшчынай. Але, паўтараю, Літва ня мае нічога да гутаркі ў гэтай справе. Ніякіх ані гістарычных, ані этнаграфічных правоў на Віленшчыну сучасная Літва ня мае, дый народ тутэйшы і слухаць цяпер ня хоча аб Літве.

З гэтае прычыны „Gaz. Warsz.“ кажа:

> як бачым, многа ў нас ворагаў, гатовых пасягнуць на нашу ўласнасьць, дык нам трэба думаць аб абароне на ўсе бакі.

А перад усім — аб абароне ад свайго ўласнага захватніцкага нацыяналізму, які, праглынуўшы Заходнюю Беларусь разам з Вільняй, імкнецца яе ператравіць.

Ды ператравіць каля трох міліёнаў беларусаў, якія залягլі між Вільняй і Варшавай, ня так то лёгка!

**А—віч.**

Прашу ўсіх сваіх сяброў з труппы Буйніцкага падаць свае адрасы у газэту „Сялянская Праўда“.

Нарачоны *Ванды Станіслаў.*

# Новая палітычная афэра.

За грошы людзі прадаюць усё: і чэсьць, і славу, і сумленьне...

Гэта старая, як сьвет, праўда. А гожа аб ёй успомніць у сувязі з **новай палітычнай афэрай**, якая робіцца ў Вільні **пад „беларускай“ фірмай.**

**Афэра** гэная йдзе з **шулерні**, шумна названай „Беларускім“ Грамадзянскім Сабраньнем.

Гэту „палітычную“ ўстанову спладзіў перад сваім выездам з Вільні Дэлегат Ураду, п. Роман, які дазволіў ёй у працягу ўсяе ночы вясьці ігру ў карты (газардовую) і ў лато. З шулерства паплылі вялікія грошы ў кішані верхаводаў гэтае „паважанае“ ўстановы, якую — паводле прызнаньня самога п. Романа ў гутарцы з адным беларускім дзеячом—пільна адведываюць вышэйшыя чыны паліцыі, толькі зусім ня дзеля нагляду (дзеля гэтага няма патрэбы...), а дзеля „мілага“ праводжаньня часу!

Раз грошы ёсьць, дык за іх ужо лёгка і газэту выдаваць дзеля баламуцтва нашага народу (—трэба-ж нечым аддзякаваць за пазваленьне на ігру!), і наняць ня толькі „зіц-рэдактара“, прадаўшага сваё некалі добрае імя за гатоўку, але і запраўднага журналіста, праўда, толькі прыпадкам абмінуўшага Лукішкі за... звычайнае зладзейства!

Але галоўнаму верхаводу „Сабраньня“, Валэйшы, які таксама нет ведама дзеля чаго не адбыў усяе прысуджанае яму кары за крымінал, усяго гэтага мала: ён узяў на сябе **„падрад“** арганізаваць такую **„беларускую“ палітычную ўстанову, якая вяла-бы барацьбу з выбранцамі нашага народу—беларускімі дэпутатамі,** якія сваімі моцнымі выступленьнямі ў Сойме прымусілі п. Грабскага пайсьці—прынамся на паперы—на некаторыя **уступкі беларускаму народу** (як гэныя папяровыя уступкі будуць зьдзейсьнены на дзеле, гэта ўжо другое пытаньне!).

Палітычнае ўстановы ня створыш з такіх фігур, як сам Валэйша, ці годныя яго кумпаны па вядзеньні шулерні. З імі-ж нават тым, каму яны служаць сягоньня (—заўтра, ведама, яны могуць зьмяніць „пана“!), гаварыць публічна неяк нялоўка—асабліва на віленскім грунце. Тут патрэбны „спэцыялісты“ дзеля „палітыкі“. Валэйша і пачаў шукаць сабе „тавару“ сярод людзей, якія ўжо „ўславіліся“ рознымі бруднымі палітычнымі афэрамі.

Успомніў Валэйша перш за ўсё „аляксюкоўшчыну“.

П. Аляксюк некалі—ў часе выбараў у так-званы „Віленскі Сойм“ — зламаў агульна-беларускую пастанову аб байкоце выбараў і стварыў групу людзей, якія працавалі сярод нашага народу, агітуючы (—ведама, за добрую плату....), каб беларусы йшлі на выбары ў гэты „Сойм“ і галасавалі ў ім за далучэньне Віленшчыны да Польшчы. Але народ наш алвярнуўся ад гэнае групы, і, ня гледзячы на ўсе стараньні, ня гледзячы на выдаваньне ажно двух адумысных газэт у беларускай мове, ніводзін з „аляксюкоўцаў“ не здалеў сабраць гэтулькі беларускіх галасоў, сколькі трэба было, каб папасьці ў „Віленскі Сойм“. — Ці гэная няўдача, ці мо' прабудзіўшаеся сумленьне іграла тут ролю,—ня ведаем; але пасьля няўдалых выбараў сам Аляксюк адыйшоў ад палітыкі і ў часе апошніх выбараў у Варшаўскі Сойм ужо ані сам не выступаў, ані перашкаджаў Беларускаму Цантральнаму Выбарнаму Камітэту ў яго працы і барацьбе з панскімі польскімі сьпіскамі.

За тое так-званыя „аляксюкоўцы“, засмакаваўшы ў лёгкім заробку, „наспэцыялізаваліся“ ў процігрaмадзкай „рабоце“ (ведама, не бязплатнай...). І вось мы бачылі, як былы „аляксюковец“, нейкі Павлюкевіч, стараўся ў Наваградчыне шкодзіць беларускаму сьпіску на выбарах у Варшаўскі Сойм, а іншыя ягоныя сябры аказвалі „ўслугі“ панскім сьпіскам...

Цяпер гэныя людзі знайшлі для сябе новую „работу“: у Валэйшы. Сабраўшыся ў Вільні на „Канфэранцыю“, яны абвясьцілі праз польскую прэсу, што стварылі новае палітычнае „беларускае“ прадстаўніцтва—„Часовую Беларускую Раду“. Каго ў ёй толькі няма! І Валэйша, і гэны самы Павлюкевіч, і „тоже бѣлоруссъ“ Кабычкін, і нейкі Шишковъ,—ды да іх падобныя...

„Добрая хаўрузія“ зусім ясна высказала сваю мэту: бароцца проці нашых **законна** выбраных дэпутатаў,—і... зьвярнулася ў першы чарод **да новага Дэлегата Ураду**, п. Рачкевіча, з якім вяла доўгую гутарку.

**Прадстаўнік польскае ўлады** быццам аказаў самазванным „прадстаўніком“ беларускага народу „любезный пріемъ“ і **абяцаў „полное содѣйствіе“....**

Так прынамся, піша „Віл. Утро“.

**Кур'яновіч.**

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Чуткі аб новай рэканструкцыі ўраду.

Ня гледзячы на няўдачу спробы падзяліць міністэрскія партфэлі між вызваленцамі і эндэкамі (Тугутт—Ст. Грабскі!), у Варшаве йдуць гутаркі аб уваходзе ў склад ураду п. Уладыслава Грабскага новых „моцных“ людзей.

### Сам сабе пярэчыць!

Як ужо ўсім ведама, пасьля нападу на Стоўпцы мін. загр. спраў, п. Скшыньскі, паслаў радаваму ўраду ноту, у якой вінаваціць ССРР у арганізацыі нападу. У ноце нават было сказана, што польскі ўрад мае самыя падробныя даныя аб тым, хто, дзе і як падгатаўляе ўсе напады „дывэрсыйных банд“.

З якім-жа зьдзіўленьнем уся прэса Эўропы павінна была прачытаць заяву таго-ж пана Скшыньскага супрацоўніку вэнгерскае газэты „Pesti Hirlap“, якому польскі міністар сказаў:

„Пэўне вы ня раз чыталі ў газэтах, што чырвоныя банды нападаюць на пагранічныя мясцовасьці Польшчы і рабуюць іх. Ведама, мы ня хочам рабіць Расейскі Урад адказным за кожын, бяз выняткаў, выпадак гэтага роду, бо мы ведаем, што арганізацыя дзяржаўнае адміністрацыйнае ўлады ў гэтай староцы—не дасканалая, а з гэтага вынікае, што Урад, нават маючы найлепшыя жаданьні, ня мае магчымасьці перашкодзіць дзейнасьці паасобных груп і адзінак“.

Як гэта пагадзіць з нотай п. Скшыньскага і... гдзе ён кажа праўду?!....

### На польска-радавым пагранічча.

У адказ за захват палякамі ў Вялейскім павеце бальшавіцкага камісара Эрнэйгольда бальшавікі захапілі 19 і 20 верасьня трох паліцыянтаў з пагранічнага корпусу, Юрэвіча, Осіка і Вжэсьня.

### Вастрожная статыстыка.

Паводле сьпісу, зробленага 25 жніўня г. г., ў 55 вастрогах Польшчы было 1419 палітычных вязьняў (1316 мужчын і 103 жанчыны). Паводле нацыянальнасьці, на першым месцы стаяць жыды—497 душ, пасьля палякі—398, далей украінцы і расейцы—299, **беларусы—145**, літвіны—36, немцы—16, чэх—1.

На вялікі жаль, статыстыка гэная, зробленая дзеля „ўспакаеньня“ заграніцы, далёка ня поўная: у яе не ўваходзяць тыя „Клапаўнікі“, якія істнуюць пры кожным паліцэйскім пастарунку і не паказываюцца ўладай нікому з „высокіх“ падарожнікаў, што ня могуць нахваліцца польскімі **сталымі** вастрогамі. Тымчасам іменна ў гэных бескантрольных „паках“ гніюць масамі беларускія сяляне, нікім не рэгістраваныя, — ды там і адбываюцца ўсе зьдзекі над вязьнямі, аб якіх робяць інтэрпэляцыі нашыя паслы, ды проці чаго пратэстуе ўвесь культурны сьвет....

### Перамога работнікаў.

Забастоўка ў Борыславі закончылася перамогай работнікаў: паводле новае ўмовы з прамысloўцамі, работнікі атрымалі дадатковую плату на кватэру і вопратку, ды ў меру росту дарагоўлі заработная плата будзе павялічывацца, згодна з абліччэньнямі статыстычнае камісіі.

### Кітайскія пратэнсіі да Польшчы.

Кітайскі ўрад маніцца зажадаць ад польскага ўраду звароту 115.000 даляраў за правоз польскіх войск праз Сібір.

### Афэра з навабранцамі.

У Варшаве арыштаваны 74 асобы з доктарам-палкоўнікам Ваб-Латыньскім на чале, якія належалі да бандыцкай арганізацыі, за грошы—ад 600 да 2.000 даляраў—звальняўшай рэкрутаў ад набору. Паміж арыштаванымі пераважаюць вайсковыя і ўрадоўцы, сябры прыёмных камісіяў і г. д.

### Вялікае зладзейства.

Заступнік начальніка скарбовае касы ў Кракаве, узяўшы з касы 100.000 злотых грашмі і розныя цэннасьці, паложаныя, як дэпозыты, ўцёк заграніцу.

## Заграніцай.

### Польскі правал на нямецкім Сьлёнску.

У часе выбараў дэпутатаў у нямецкі парлямант палякі не атрымалі ніводнага мандату. За польскі сьпісак пададзена ўсяго 36.000 галасоў,— на 12.000 менш, чым на папярэдніх выбарах.

### Польскія „меншасьці“ ў Жэневе.

Дэлегаты беларуска-украінска-літоўскага камітэту, заснаванага ў Парыжу, прыехалі ў Жэневу і былі прыняты старшынёй агульнага сабраньня Лігі Народаў, Моттай.

### Англія аб рэвізіі трактатаў.

Ня гледзячы на прыняцьце Лігай Народаў прынцыпу ненарушальнасьці трактатаў, у англійскай прэсе ўзмацовываецца агітацыя за перагляд Вэрсальскага Трактату.

Лёйд Джордж у „Daily Chroniele“ радзіць вярнуць Нямеччыне Гданск і „калідор“, ды адабраць у Польшчы Усходнюю Галічыну.

Падобныя думкі высказывае Гарвэн у газэце „Observer“, хаця ён думае, што гэта магчыма зьдзейсьніць не раней, як цераз 20 гадоў.

„Manchester Guardian“ заахвочывае Нямеччы-

ну да ўваходу ў Лігу, кажучы, што іменна дарогай арбітражу яна здолее направіць некаторыя свае граніцы.

### Пакушэньне на Эрыо?

З Парыжу паказуюць, што ў часе паседжаньня рады міністраў у Рамбуйе нейкая жанчына ўвайшла ў гэны палац і аддала інспэктару паліцыі набіты рэвальвэр, кажучы, што яна манілася забіць Эрыо, ды не хапіла ёй адвагі.

Некаторыя газэты падаюць, што гэта — вар'ятка.

### Чуткі аб забойстве баўгарскага караля (?)

Англійская газэта „Daily News" з вялікай асьцярожнасьцяй падала чутку з Белграду, быццам баўгарскі кароль—забіты.

Чутка гэтая, аднак, не апраўдалася.

### Нябывалая паводка.

У Ленінградзе (Пецярбурзе) страшэнны ўраган з дажджом, пагнаў ваду ў Неве назад у места, што выклікала страшэнную паводку, якой ня было сто гадоў. Вада паднялася ў рацэ на 10 стоп і заліла вуліцы. Пагібла 19 асоб. Страты надта вялікія.

### Новы „расейскі цар".

Расейскія вялікія князі, уцёкшы з бацькаўшчыны заграніцу, дзе ў іх ёсьць у чужаземных банках вялізарныя капіталы, сабраныя з крывавае працы народаў старое Расеі, ня маючы ніякае работы, гуляюць „у цароў". Гэтак вял. князь Кірыл выдаў гэтымі днямі „маніфэст", абвяшчаючы сябе „царом усяе Расеі".

### Рэвалюцыйны рух у Баўгарыі.

Баўгарскі ўрад абвяшчае, што камуністы рыхтаваліся падняць рэвалюцыю ў Баўгарыі 15 верасьня. Гэтым і тлумачыцца ўрадавы тэрор.

Наказуюць, што з Баўгарыі выехалі ў Вену і Рым эмісары тайнае арганізацыі дзеля выпаўненьня сьмяротных прыгавораў над некаторымі баўгарскімі эмігрантамі.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Вялікія эўрапэйскія дзяржавы абвяшчаюць, што яны зракліся думкі аб інтэрвэнцыі ў хатнія справы Кітаю.

Генаралы арміяў, якія вядуць барацьбу пад Шанхаем, пачалі між сабой міравыя перагаворы.

Армія генарала Ву-Пэнь-Фу ў апошніх бітвах утраціла 30.000 душ забітымі, раненымі і папаўшымі ў палон.

### У Марокко.

Гішпанскія войскі, падтрыманыя сьвежымі сіламі, крыху палепшылі свае пазіцыі. Аднак, палажэньне іх усё яшчэ грознае. Паўстанцы рыхтуюцца да нападу на места Шэшуан, якое пэўне ня здолее абараніцца.

## ХРОНІКА.

**Пачатак „новага курсу".** Як мы даведаліся, напярэдадні ўваходу ў жыцьцё новых „языковых" законаў школьная ўлада стараецца зьнішчыць і тыя некалькі беларускіх пачаткавых школ, якія нейкім цудам уцалелі ад разгрому ў тыя гады. Гэтак, *у Вялейскім павеце зачынены надовячы дзьве апошнія істнаваўшыя там беларускія школы...*

Пытаемся ў пана Віленскага Куратара: што гэта значыць?

**Зьдзекі над Віленскай Беларускай Гімназіяй.** Віленскі Куратарыум, па прыкладу мінулых гадоў, робіць розныя перашкоды пры зацьверджаньні вучыцялёў Вілен. Бел. Гімназіі, вымагаючы розных дакумэнтаў, сцьвярджаючых „абыватэльства". Вось-жа аказываецца, што тых самых вучыцялёў той самы Куратарыум бяз ніякіх дакумэнтаў зацьвярдзіў, як штатных вучыцялёў у Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі, што раўназначна з прыняцьцем іх на ўрадовую службу!

Пан Гонсёровскі „отлічаецца"!

**Пленарны сход Камітэту Помачы пацярпеўшым ад вайны** адбудзецца 29 верасьня ў 6 гадз. вечара, Вострабрамская 9.

Парадак дня:

1) арганізацыя скарбоначнага збору ахвяр на карысьць прытулку;

2) аканчальнае разгледжаньне статуту Беларускага Дабрадзейнага Таварыства;

3) бягучыя справы.

**„Беларуская Гімназія ў Клецку".** Пасьля вялікіх клапотаў урэшце былая Нясьвіжская Беларуская Гімназія адчынілася ў м. Клецку, Нясьвіжскага павету, бо ў Нясьвіжы не маглі знайсьці адпаведнага будынку.

Зацікаўленасьць люднасьці сваей роднай беларускай гімназіі аграмадная: вучні прыяжджаюць і з суседніх паветаў: Стаўпецкага, Баранавіцкага, Навагрецкага і Лунінецкага. Ужо пачаліся прыймовыя экзамены. У гімназію прыймаюцца вучні і вучаніцы і з пачатковых школаў, і польскіх і расейскіх гімназіяў. Для прыежджых ладзіцца інтэрнат.

## БАНДЫТЫЗМ.

Падаем жменю праяваў бандытызму, якія мелі месца ў **Заходняй Беларусі** за апошнія дні — паводле газэтных паведамленьняў за апошні тыдзень.

### Напад на цягнік.

Інспэктарат арміі абвяшчае, што ў сераду, 24 верасьня, на пасажырскі поезд, які йшоў з Берасьця ў Лунінец, у 2 гадз. дня зроблены напад паміж станцыямі Парохонск і Плоўна. Напад зрабіла банда, зложаная з 40 асоб, уваружаных самастрэльным аружжам.

Банда, спыніўшы цягнік, адчапіла машыну і пусьціла яе бяз людзей у кірунку Лунінца. Машына даехала да станцыі Лунінца і там была затрымана.

За цягнікам, у кірунку Пінска, банда ўзарвала масток і тады распачала рабунак.

У цягніку ехаў ваявода Даўнаровіч, камандант акружнае паліцыі М'яновіч, біскуп Лазінскі, сэнатар Выслоух і інш.

Абрабаваным асобам бандыты выдаваліківты з подпісам украінска-беларускаў арганізацыі.

Спаміж пасажыраў адзін забіты і два ранены. Ваявода астаўся цэлы.

Лавіць бандытаў выслана пагоня.

Віленскае „Słowo" дадае гэткія падробнасьці:

З ехаўшых у цягніку „дастойнікаў" ніхто ня даў адпору нападаўшым. Бараніўся адзін толькі чалавек — нейкі жыд, які і быў забіты.

Бандыты насьмяхаліся над ваяводай Даўнаровічам і камандантам паліцыі, якіх паразьдзявалі да-гала.

Газэта ядавіта пытаецца, ці п. камандант носіць пустую кабуру ад рэвальвэру і пустыя ножны ад шаблі?

ПАТ дадае, што раненымі аказаліся чатыры асобы: сэнатар Выслоух, яго жонка, паліцыянт, які праглядаў пашпарты, ды яшчэ нейкі пасажыр.

Пагоня быццам ужо ўвайшла ў сутычнасьць з бандытамі, якія пайшлі ў кірунку Баранавіцкага павету.

**У Навагрудчыне** бандыты напалі на фальварак Грабоўшчыну; аднак, гаспадар падстрэліў аднаго з напасьнікаў са стрэльбы, а рэшта ўцякла. Раненага бандыта заарыштавалі („Gaz. Warsz.").

**У Віленшчыне** на дарозе з Юрацішак у Трабы застрэлены з засады п. Сікорскі, уласьнік двара Покшышкі („Gaz. Warsz.").

**Пад Вільняй** 19-га верасьня паміж 11 і 12 гадз. ночы на ехаўшых да хаты ў в. Шаса, Красьненскае гміны, жыхароў гэтае-ж вёскі Кісялёў напалі тры ўваружаныя бандыты. Аднак, бандытам быў дадзены адпор і яны ўцяклі („Słowo").

**У Сьвянцяншчыне** 17 г. м. ў 11 гадз. ночы некалькі ўваружаных бандытаў, пераплыўшы праз возера лодкай, пачалі абстрэліваць двор Першуксто, Міхалоўскае гміны. З прычыны таго, што ў двары на іменіны гаспадыні сабралося многа гасьцей, мужчыны пачалі адстрэлівацца. Бандыты ўцяклі. Двух заарыштавалі. Яны тлумачацца, што стралялі толькі, каб пастрашыць.

24-га верасьня 3 бандыты напалі на плябанію ў Парыдзаве, Даўгелішскае гміны, абрабавалі яе да тла і ўцяклі.

**У Вялейшчыне** 24-га верасьня банда з 5 уваружаных асоб прабавала перайсьці каля граічнага стаўпа 484 радавую граніцу. Вартаўнік сустрэў іх стрэламі і раніў двух у ногі. Раненыя заарыштаваны, рэшта ўцякла назад заграніцу.

**У Грацлаўшчыне** ў нядзелю, 21 г. м., 4 бандыты, уваружаныя вінтоўкамі і рэвальвэрамі, напалі на двор п. Французовічыхі Герчаны, Дукштанскае гміны. Абрабаваўшы двор, бандыты ўцяклі.

**У Дзісьненшчыне** 22-га верасьня 8 уваружаных вінтоўкамі бандытаў напалі на ехаўшага з м. Лужкоў у Мірочыкі Аляксандра Шырчэнко, у якога ўзялі каня і 150 злотых, ды ўцяклі.

---

**Беларускія вучыцельскія курсы.** Школьная Рада 13 верасьня падала Віленскаму Куратару просьбу аб дазволе адчыніць беларускія вучыцельскія курсы ў працягу 1924 — 25 школьнага году. Адказу ад Куратара пакуль што няма ніякага.

**Паседжаньне Белар. Школьняй Рады** адбылося 15 верасьня, на якім пастаноўлена стварыць камісію дзеля экзаменаваньня з беларусазнаўства тых вучыцялёў, якія ня былі на беларускіх курсах, а якія жадаюць прыступіць да арганізаваньня беларускіх школ.

У склад камісіі ўвайшлі: Тарашкевіч, Луцкевіч, Р.-Міхайлоўскі, Манкевіч, Астроўскі і Кс. А. Станкевіч. Камісіі даручана вызначыць час, калі яна можа экзаменаваць, а так-жа даручана ей апрацаваць праграму з беларусазнаўства.

На паседжаньні выявілася, што ў беларускай вёсцы сільна зазначаецца жаданьне беларускай школы і што ўжо прыслалі сваю згоду працаваць у беларускай школе больш як 300 беларускіх вычыцялёў.

**Загранічны беларус у Вільні.** Прошлы тыдзень у Вільні некаторы час гасьціў кс. Тарасевіч, міс'янэр. Госьць гэты цікавы тым, што пакінуў Беларусь (Лідзкі пав.), будучы зусім маладым і выехаў у Амэрыку, а пасьля ў Швайцарыю і астаўся зусім сьвядомым і цьвёрдым беларусам. Кс. Тарасевіч адведаў беларускі прытулак і гімназію.

**Хоць гэты здаволены!** 7.IX сёл. г. адбыўся разьвітальны банкет на чэсьць Віленскага Дэлегата Ураду п. В. Романа. З вядомых беларускіх дзеячоў ня было там нікога, бо за што-ж яны маюць жалець і выхваляць п. Романа? Затое знашоўся нейкі Більдзюкевіч з так званага „Грамадзянскага Сабраньня", які быў на гэтым банкеце і, як піша „Dzien. Wil.", сказаў прамову, у якой дужа выхваляў добрыя адносіны да беларусаў польскай улады і безстароннасьць пры выбарах у Сойм.

Але тут вілаць зайшла маленькая памылка: — Більдзюкевіч хацеў мусіць сказаць, што польская ўлада на некаторы час **да яго самога** дужа добра адносіцца, бо сам беларускі народ аб гэтых адносінах, як добра ведаем, зусім іншага праканаpsньня.

**Аб дзейнасьці Літоўскага Часовага Камітэту.** На засяданьні Камітэту 26 жніўня, як падае „Życie Ludu", было сцьверджана, што, ня гледзячы на зацьверджаньне законаў аб мовах „меншасьцяў" і на стараньні Камітэту, палажэньне віленскіх літвіноў зусім не палепшала.

Польская ўлада і далей адмаўляецца даваць „абыватэльства" літоўскім вучыцялём, дык літоўскія школы ня могуць нармальна працаваць.

Дагэтуль папраўлена толькі адна крыўда: ўлада дазволіла нанова адчыніць закрытую куратарам літоўскую гімназію ў Сьвянцянах.

Інтэлігенты-літвіны, ня маючы „абыватэльства", знаходзяцца ўсьцяж пад пагрозай высылкі за межы Польшчы.

У школьным жыцьці пануе старое, добра знанае гора. Новых літоўскіх дзяржаўных школ ня адчыняюць, затое зачыняюць істнуючыя.

Літоўскіх матурыстаў ня прыймаюць у польскія унівэрсытэты. Робяцца труднасьці нават і ў прыёме іх, як вольных слухачоў.

Вучням літоўскіх сярэдніх школ не даюць адсрочкі дзеля ваеннае службы, дык яны прымушаны кідаць навуку і ісьці ў салдаты.

Адным словам, зусім такі самы абраз, як і ў нас, у беларусаў!

**Новая кніжка.** Выйшаў з друку зборнічак вершаў вядомага беларускага паэта Уладзіміра Жылкі пад назовам „На ростані".

## Дэпутацкія мітынгі.

### Вільня.

У нядзелю, 21 верасьня адбыўся мітынг у Вільні на Зьвярынцу. Выступалі з прамовамі сэнат. В. Багдановіч і дэпутат М. Кахановіч. Зьмест прамоваў: Царкоўная палітыка Польскага Ураду, палажэньне праваслаўнае люднасьці і духавенства, барацьба за стары стыль у царкве. Мітынг быў мнагалюдны.

### Бельск.

У той-жа дзень адбыўся мнагалюдны (да 3000 асоб) мітынг у Бельску-Падляскім, на якім выступаў беларускі дэпутат П. Валошын.

Люднасьць з зацікаўленьнем праслухала доўгую прамову дэпутата, бо ў Бельску ад даўняга часу ня было беларускіх мітынгаў. Зьмест прамовы: палажэньне беларусаў пад Польшчай і праца белар. дэпутатаў у Польскім Сойме.

На гэтым мітынгу сабрана было на прэсавы фонд — за прададзеныя кніжкі — 13 зл. 82 грошы і 8.900,000 п. мар.

# Карэспандэнцыіі.

## „Хоць гвалт крычы“

*(Гарадзейская гм., Нясьвіжск. пав.).*

У Вялікім Двары, Гарадзейскае гміны, Нясьвіжскага павету прыстаў новы ўпраўляючы Косат, які знаходзіцца ў Вялікім Двары ад пачатку вясны. За ўвесь час свайго жыцьця ў гэтым маёнтку ён ня плаце падзёным работнікам. Многа разоў хадзілі да яго дзяўчаты і хлопцы з Новае-Вёскі і Зарэчча па грошы, але ён кажа: то няма грошаў, то няма часу, а нарэшце, як яму ўжо надаелі, ходзячы, кажа: „як памалачу“. Добра... Прышла восень, памалаціў Косат жыта і прадае яго, але работнікам як не плаціў, дык і ня плаце.

Што рабіць бедным жыхаром, якіх увесь заработак прападае ў Косата?

Сабраліся яны ў нядзелю рана 21 верасьня і пайшлі па грошы да Косата. Увайшоўшы ў кантору, засталі яго, седзячы. Косат, як шалёны, схапіўся і стаў крычаць ва ўсё горла:

„Я вам раз казаў, што грошаў няма і ня дам, бо мне сяньня сьвята! Вон з канторы! Прышлі дурыць галаву! Каб больш тут і пала ваша ня была“.

І, ухапіўшы за руку хлопца з Новае-Вёскі, Сьцёпку Чыжыка, выкінуў за дзьверы.

От якія заработкі ў нас у Вялікім Двары; пакуль зышчаш заробак, то здохнеш хутчэй з голаду!

Просім рады: што рабіць з гэдакім рызыкантам?

**Вялікадворац.**

## Добрыя парадкі.

*(Ланьская гм., Нясьвіжск. пав.).*

У месьце Лані, Нясьвіжскага павету стаіць швадрон уланаў 27 палка дзеля падтрыманьня парадку і ахароны граніцы. Як у 20, 21 і 22 гадох, салдаты робяць і цяпер: у начы езьдзяць па полі, бяруць сялянскае дабро і г. д.

У ліпені месяцы ў адну ноч узброеныя салдаты бралі сена ў аднаго селяніна з суседняй вёскі Касмовічы. Гэтае заўважыў начны вартаўнік і пабудзіў гаспадара, з якім разам пайшлі праганяць салдатаў. Убачыўшы іх, салдаты пачалі ў іх страляць і ранілі гаспадара Жукоўскага.

Сяляне абураны, але, баючыся тэрору, не зьвяртаюцца да ўлады аб абарону ад падобных паступкаў. Нават хацелі зьвяртацца да Бел. Пас. Клюбу, але гэтак сама баяцца.

Паліцыяй быў напісаны пратакол, але начальства вайсковае стараецца замяць усё гэта, бо лагодзіць і лечыць пацярпеўшага.

Вось, што робяць з намі! Можа-б хто з паслоў да нас заглянуў?

**Сусед.**

## Арышты.

*(Нясьвіжскі пав.).*

У вёсцы Круты Бераг і м. Гарадзеі адбыліся вобыскі і арышты моладзі па даносу „мальчышкі“ Глабаша з вёскі Завітой затое, быццам сьпявалі беларускую марсельезу „Адвеку мы спалі...“. Пракураторская ўлада іх звольніла, бо не нашла падставы для абвінавачаньня.

**Адзін з моладзі.**

## Гора вёскі.

*м. Далятычы, Навагрaдзкага павету.*

Перамогшы ўсе перашкоды, калі не калі пападаецца і да нас свая беларуская газэта. Хоць і рэдка яе чытаеш, але ніколі няма пісем з нашых Далятычаў. Як быццам ужо ў нас няма таго гора, што заліло шырокай хваляй усе нашыя сядзібы, усю нашу многапакутную Бацькаўшчыну. А ад гэтага гора няма супакою, няма забыцьця, няма ратунку. Плацім падаткі, а падаткаў гэтулькі, сколькі паноў у Польшчы. Ды яшчэ і натураю адбывай „паншчыну“: то дарогі і масты ладзь, (хаця-ж на гэтыя масты бяруць па паўзлоту ад дзесяціны), то стойку адбывай, а то і так: які бы пан ні заплёўся ў вёску, то з вёскі вязі яго. Паказалася паном, што мужыкі з коньмі за шмат у вёсцы аддыхаюць. Прыходзяць і раптам даюць табе рамясло „звошчыка“. Добрая прафэсія!

У 1921 г. прыехаўшым з „бальшавіцкага пекла“ ў польскі „рай“ праз якісь месяц жыцьця ў гэтым „раі“ ўсім маладым Далятыцкім хлапцом Любчанская ўлада загадала явіцца на пастарунак. Адных запісывалі да войска, другіх адпускалі. З паперамі расейскімі ня лічыліся, але мусіць бралі на вока, хто спадабаўся. Забралі... Адслужылі, як належыць, а цяпер мяняюць „вайсковыя ксёнжкі“ і ў новых напісана, што Яну Мамчыцу, Грыгору Макарэвічу і другім дзень нарадзін ня 1899 г., а ў 1901 г. Пасьля службы на два гады памаладзелі! А перад службаю лічылі іх дэзэртырамі, ды зімою, як у Навагрaдку, так і ў Баранавічах замыкалі ў мурох без вокан...

Цяпер паглядзім на справу школьную ў Далятычах. Стаіць школьны будынак з вокнамі, з дзьвярмі, ёсьць і вывеска „Szkoła powszechna“, ну як мае быць. Усё добра. А дзяцей вучаць то яшчэ ляпей: і чытаць, і рахаваць і рамёслам. Калі дзіця ня пойдзе ў школу, дык тагды і бацькоў вучаць рахаваць мільёны, а ніхто ня спытае, чаму дзіця ня ходзе? Тагорочная зіма была халодная, марозьлівая, а ў нашай школе на ўсю зіму разоў дзесяць палілі печ, а то і не. Дровы вазілі мы самы, і самы вучні іх пілавалі. Не палілі затым, што комін быў раскідаўшыся. А як зімою правіць? холадна. І дзеці вучыліся ў халодніцы. Але, толькі дзякуй Богу за вучыцеля, ён у нас дасьціпны. Каб дзеці не памерзлі, то даваў ім дровы рэзаць, гэтым і грэліся і рамясла вучыліся. Кажуць, што ўдома ня трэба да працы ўжываць дзяцей, а ў школе?—на тое і школа. Другая зіма надыходзе, а коміна на страсе ня відаць. Няужо-ж змест школы ізноў будуць мець халодніцу Далятыцкія вучні?

Гэта малюнак з аднаго боку Далятыцкай школы. Цяпер паўглядаемся на яго з другога боку. Відаць, што надта спадабаліся нашым Далятынцам „научыцелі“, спадабаліся да душы. Надышоў другі вучэбны год, а „научыцелі“ старыя, хаця паводлуг „языковых законаў“ іх трэба „перашарсьціць“ на сваіх беларускіх, бо з усіх вучняў, якія ходзяць да нашай школы, няма ніводнага паляка. Але якжа-ж мяняць „каханых“? хтож тагды будзе бацькоў штрафаваць, а тагды астануцца ў кішані мільёны і бацьком ня прыйдзецца на адседку хадзіць. Прывычка, браткі, а прывычка—другая натура. Каб вучыцелі ляпей стараліся, ім і гасьцінца нясуць: хто яек, а хто чаго другога, хто чым багат. Вядома яны паны, хоць ня пэўныя, бо жонкі з беларусаў.

**Далятыцкі бадзяка.**

## Паліцэйскія парадкі.

*м. Паставы.*

Нядаўна ў нашае мястэчка прыслалі новага каманданта, каторы і новыя парадкі заводзе. Калі едзеш на кірмаш, дык і душы няма: можа штраф заплаціш, а можа і ў „козе“ пераначуеш. Вядома: у страха вочы вялікія, але ўсяго бываець: дошчачка ад ваза адарвецца, білет уязды згубіў, дык пэўна аштрафуець; пашпарту забыўся, ці можа і ня так глянуў на паліцыянта ці каманданта, дык і арыштуюць.

Надовячы, 9 верасьня, арыштавалі нейкіх баб, а з імі і дзеўку Стэфку Хаткевічанку з вёскі Лапухоўкі, А за што? — Бо гэтая дзеўка была стройная і на пальцы быў залаты пярсьцёнак, — яна думала жарты, але калі павялі ў пастарунак, дык яна — плакаць. Бабы, каторыя былі знаёмы на кірмашы, згуртаваліся і адабралі яе ад паліцыянтаў №№ 5434 і 4649. Выходзіць, што стройным дзеўкам небясьпечна выхадзіць на кірмашь, лепей сядзець дома!!!

Гарэлку забаранілі прадаваць у нядзелю і кірмашныя дні. Ну, але абы грошы, дык проста захадзі да ўсіх складаў гарэлкі і купляй, сколькі хочаш. А няхай увідзіць паліцыянт з кішані бутэльку, дык і з бутэлькай прашчайся, і яшчэ штраф заплаціш. Выпі трохі, хоць і не скандаль, — як пазнаюць, што піў, дык і ў „козу“. Яно гэта можа і добра, можа меней цягнулі-бы гэтай згубніцы — гарэлкі.

Але-ж каб яны штрафавалі гэтак тых, каму забаранілі прадаваць водку ў кірмашныя дні, — а тыя дык прадаюць! А чаму не штрафуюць? — дык гэта вядома, што чарка гарэлкі сваё зробіць!!!

**Беларус.**

## І сабакам ня соладка.

*(Радашкоўская вол.).*

Пакуль яшчэ ўсё расло на полі, па вёсках у нас чулася неяк вальней. Гасьцямі тагды вайчасьцей зьяўляліся дачнікі: як купцы, паны, жонкі паліцэйскіх і інш. Хоць крыўднавата было глядзець на такую сацыяльную несправядлівасьць, дзе побач з галітой нашае вёскі кіпела разгульле і вясельле, але прынамся ня было ніякага страху. Пад восень-жа, калі на палёх ужо сталі зьяўляцца стадамі птушкі — сумнага настрою (вароны), і ў вёсцы нашай зьмяніліся госьці. Гэтыя ўжо дзень і ноч не давалі спакою, ходзячы па дварох і прыглядаючыся да дошчачак, ці аднолькава ў усіх напісана, або топчучы грады варыва з акцызьнікамі, які так пільна ўглядаўся ў буракі, ці не сядзела дзе калíва табачыны, аж па хатах пэратрасаючы ўсе латы селяніна, пужалі дзяцей і старых. Так напрыклад у вёсцы Сычавічы, калі акцызьнік на гарэ ў хаце Базыля Смалонскага, не знайшоўшы тытуну, пачаў браць у кішані яблыкі, дык сусед ад страху паляцеў да дому, абтрос без пары дзічку, і загадаў дзецям імчаць у раку, каб, значыць, не плаціць штрафу! Можа хто з гэтага пасьмяецца і заліча суседа дурным, але кожны-бы з нас гэта зрабіў, будучы на яга месцы, бо паліцыя ў нас мае такую сілу, што, калі напіша, пратакол, дык ніякая моц не пераправе. Так, для прыкладу, яшчэ адзін факт.

Да селяніна С. Абрамчыка тэй-жа вёскі прыехаў на двор пісар гміны з паліцыянтам № 4184. На двары зачаў да іх кідацца прывязаны сабака. Пісар пахваліў вернасьць „руткі“, а паліцыянт нічога не казаў, а толькі страшэнна моршчыўся, а на другі дзень ужо другія паліцыянты прышлі з гатовым пратаколам да Абрамчыка, каб ён падпісаў, што сабака быў ня прывязаны. Бедны селянін, кінуўшы ўсю работу, пабег да сэкратара гміны, які перад Войтам і інш. сьведкамі сказаў прысягне, што сабака быў прывязаны. Войт сэкратара з Абрамчыкам паслаў у паліцыю паразумецца, але той паліцыянт выгнаў селяніна вон, а з сэкратарам пачаў ласкава гаварыць, што ня можна справіць, бо запісана ў кнігі пратаколаў, Дзякуй Богу, што ў сьведках ёсьць сэкратар гміны: магчыма, што Абрамчык апраўдаецца. Але як жа будзе яшчэ з пяцьма пратаколамі, напісанымі ў тэй-жа вёсцы паліцыянтам № 4184, якому брахня сабак мусіць таксама не спадабалася?

Такіх фактаў можна даць дзесяткі і сотні, але, што гаварыць: зразумейце, людзі добрыя, самі, што ня толькі нам „соладка“ жывецца, але й нашым сабакам, бо ўсе-ж сабакі з Польшчы, якіх прывязьлі паваехаўшыя стуль да нас урадоўцы-палякі, ходзяць зусім няпрывязаныя і кусаюць народ, душаць качак, як напрыклад сабака кіраўніка Радашкоўскай пав. школы, сяржанта, які ўжо не аднаму чалавеку падраў адзежу, ці капітанавы тры, па цяляці велячыні, якія 20/IX да шчэнту скрывавілі хлопчыка аднаго работніка, Гапаровіча, і нічога: толькі гаспадары іх сьмяюцца!

**М. Гудзёлка.**



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.